На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

# Народная Воля

№ 196 (548)

Субота, 31 кастрычніка 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



## Так и сказал...

**"Сегодня возможны только два варианта: или сказать народу правду о действительном положении вещей и попытаться выйти из этого состояния, для чего нужна смелость, или есть путь для трусов: все понимать, но молчать и оттягивать неизбежный крах. По нему мы, по-моему, и идем".**

**Николай ЮРКОВ,**
**председатель колхоза "Дрибинский" Могилевской области.**

## Адкрытым тэкстам

# Чым мы будзем карміць расійскую армію?

Вядома, што 16 кастрычніка 1998 года ў Маскве адбылося пасяджэнне выканкама так званага Саюза Беларусі і Расіі. Кіраўнікі ўрадаў падпісалі пяць пагадненняў, якія афіцыйная беларуская прапаганда лічыць вельмі выгаднымі для Беларусі. З асаблівым захапленнем яна расхвальвае пагадненне аб рэструктурызацыі доўгу "Газпрому". Маўляў, на 200 мільёнаў долараў адправім харчавання ў Расію і будзем зімаваць у цяпле.

Расійскія сродкі масавай інфармацыі падпісаныя пагадненні тлумачаць больш падрабязна. Так, газета "Известия" за 17 кастрычніка ў артыкуле "Союз нерушимый на хлебе и газе" піша, што беларускія даўгі Маскве да канца года вырастуць да 550 мільёнаў долараў. Пагашаць іх будуць такім чынам: 200 мільёнаў — харчаваннем, на 200 мільёнаў Расія купіць беларускіх дзяржаўных аблігацый, на 50 мільёнаў Беларусь адгрузіць прамысловых тавараў і 100 мільёнаў павінна пералічыць, як кажуць, "жывых" грошай.

Далей газета прызнае, што для Расіі гэтае пагадненне не выгаднае, але вымушанае. Пасля абвалу рубля Расія пазбавілася імпартнага харчавання. Адначасова Беларусь забараніла вываз харчавання ў Расію. Нават з заходніх абласцей "кінулі" міліцыю на беларуска-расійскую мяжу. Адным словам, Аляксандр Лукашэнка, лепшы сябра расіян, у крытычны момант перакрыў ім кісларод і яны сталі зговорлівымі.

Цяпер разгледзім пытанне аб разліках за газ прадуктовымі таварамі. На першы погляд, праблемы тут няма. Назбіраем усяго па троху: садавіны і агародніны, збожжа і бульбы, масла і мяса. Галоўнае, каб не плаціць валютай. Бо яе ў дзяржаве няма. Але не ўсё так проста. Справа ў тым, што не мы будзем адгружаць у Расію лішкі сваёй прадукцыі, а расіяне будуць купляць у нас тое, што ім небходна. Распрацавана такая схема. Адзін з камерцыйных банкаў Расіі выдасць Беларусі крэдыт на 200 мільёнаў долараў, Мінск пералічыць іх "Газпрому". Апошні аддае гэтыя грошы Міністэрству абароны Расійскай Федэрацыі як падаткі дзяржаве. А ўжо ваеннае ведамства Расіі купіць у Беларусі патрэбнае яму харчаванне на ўсю суму. Як бачыце, дарога доўгая.

Давайце рагледзім, што мы можам прадаць свайму саюзніку. Найбольш патрэбныя для арміі харчовыя тавары: збожжа для чорнага хлеба і круп, бульба, масла сметанковае і мяса. Сёлетні год у нас лічыцца неўраджайным. Збожжа сабралі меней, чым у мінулым годзе, на 1,3 мільёна тон. Супрацоўнікі Міністэрства сельгасхарча паведамілі, што трэба купляць за мяжой пшаніцу цвёрдых гатункаў і фуражнае зерне. На гэтыя мэты пойдзе 90 працэнтаў валюты, выручанай ад рэалізацыі сельгаспрадукцыі. Відавочна, на продаж збажыны разлічваць не прыходзіцца.

Асноўным вытворцам бульбы ў нас з'яўляецца прыватна-сямейны сектар. Яго доля дасягае амаль 90 працэнтаў ад агульнага аб'ёму. Тут бульба захоўваецца ў надзейных сховішчах, і лішкі яе сяляне прададуць толькі вясной, калі цэны будуць больш высокія. А грамадскі сектар у апошнія гады скараціў плошчу пад бульбу і збірае яе ў межах аднаго мільёна тон. Гэта ў сярэднім па 100 кілаграмаў на душу насельніцтва. Калі адкінуць на насенне, гніенне і раскраданне, то застаецца па кілаграму на адзін зуб. Я не бачу, што тут можна прадаваць.

Застаюцца малочныя прадукты і мяса. Тут сітуацыя таксама не ўсяляе аптымізму. Пагалоўе дойнага статку зменшылася амаль на палову. Надой малака ад каровы ў мінулым годзе быў 2355 кілаграмаў. Гэта — на ўзроўні бабулінай казы. Дарэчы, асноўная маса малака надойваецца ў летнія месяцы. Яны ўжо прайшлі. Нездарма ўжо цяпер сустракаюцца перабоі ў гандлі малочнай прадукцыяй. Калі ж мы пусцім усё малако на вытворчасць масла для расійскай арміі, то нам застануцца толькі кефір і маслёнка.

Грамадскі сектар пакуль прэваліруе ў вытворчасці мяса. Яго доля — 75 працэнтаў ад агульнага аб'ёму. Астатняя чвэрць выпрабляецца і спажываецца ў прыватна-сямейным сектары. Адсюль у дзяржаўны кацёл нічога не паступае. Такім чынам, мяса калгасаў і саўгасаў можна пусціць на кармёжку расійскай арміі. Але тут у мінулым годзе было выраблена ўсяго па 41 кілаграму на душу насельніцтва. Гэта ўдвая меней за навукова абгрунтаваную норму. Выходзіць, сябе не можам забяспечыць. Куды ні кінь — усюды клін. Само сабою ўзнікае пытанне, чым мы будзем карміць расійскую армію?

У заключэнне скажу, што калгасна-саўгасная сістэма не выканала асноўнай сваёй функцыі — забяспячэнне краіны прадуктамі харчавання. Яна павінна ўступіць іншым, больш эфектыўным формам гаспадарання. Без радыкальнай зямельнай рэформы адолець глыбокі крызіс сельскай гаспадаркі нікому не пад сілу.

Калі ж урад Беларусі паспрабуе выканаць разгледжанае пагадненне, то яму прыйдзецца ўсе дзяржаўныя рэсурсы накіраваць у Расію, а свой народ пакінуць галодным. Праўдзівасць гэтага прагнозу вы, шаноўныя чытачы, хутка ўбачыце на паліцах магазінаў.

**Яўген ЛУГІН,**
**старшыня Беларускай сялянскай партыі.**

## Надвор'е

31 кастрычніка і 1 лістапада на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 7—12, 31-га месцамі парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +1...+6, удзень +5...+10.

## Хобби

### Искусно мастерить можно из керамики

Две минчанки, две Наташи — Иванова и Крель рискнули представить целую коллекцию своих работ на республиканской выставке керамистов в Бресте, в которой участвуют и довольно маститые мастера. Тем не менее подруги уверены в успехе. Не зря же говорят: риск — благородное дело.

Фото Романа КОБЯКА.

# За беззаветную преданность идеям рыночного социализма, поддержку на выборах и референдумах президент Лукашенко отбросил 99 процентов стариков за черту нищеты

Национальный исполнительный комитет Беларуси — "теневое " правительство страны — на своем последнем заседании решил призвать все население Беларуси поддержать справедливые требования профсоюзов о незамедлительном повышении заработной платы. Решено потребовать, чтобы уровень тарифной ставки первого разряда не был ниже минимального потребительского бюджета, или 3 миллионов 800 тысяч рублей, а минимальная зарплата — не менее прожиточного минимума, или 2 миллионов 300 тысяч рублей.

Цифры эти взяты не с потолка. Прежде чем принять соответствующее постановление, НИК заслушал доклад Александра Соснова — бывшего министра труда в правительстве Михаила Чигиря, а теперь председателя комитета по социальным вопросам в "теневом" правительстве. Он представил убедительное исследование, насыщенное различными таблицами и диаграммами. Главное, что зафиксировано в этом документе, — рост зарплаты отстает от роста цен. И это вопреки многочисленным обещаниям президента А.Лукашенко, его декретам и указам. Если исходить из курса доллара к рублю, который устанавливает Национальный банк Беларуси, то можно констатировать: начиная с мая, рост зарплаты прекратился и ее уровень начал стремительно падать. А если же во внимание брать реальный курс доллара, который конечно же более точно отражает реальную ситуацию, то тогда этот процесс начался еще с марта. Вот о чем свидетельствуют беспристрастные цифры: если еще в январе размер минимальной зарплаты составлял 6 долларов, то в сентябре он уменьшился до 4,1 доллара, а в октябре — и вовсе до 2,2.

Таким образом, результаты расчетов показывают совершенно безрадостную картину: рублевый прирост заработной платы абсолютно не компенсирует трудящимся инфляционных потерь, жизненный уровень населения стремительно падает. Об этом также свидетельствует соотношение доходов населения и минимального потребительского бюджета. Так, в сентябре текущего года размер минимальной заработной платы (с индексацией) составил лишь 16,3% прожиточного минимума, или 9,8% минимального потребительского бюджета. А тариф первого разряда (с доплатами и индексацией) — только 26,1% минимального потребительского бюджета.

Президент и его правительство продолжают дурачить народ. Так, с большой помпой принято решение повысить с 1 октября 1998г. минимальную заработную плату до 350 тыс. рублей, а тариф первого разряда — до 700 тыс. рублей, или на 40%. К первым пяти разрядам сохранены доплаты, размер которых теперь составляет 200—500 тыс. рублей. Сохранены и введенные с 1 мая 1998г. повышающие коэффициенты к первым восьми разрядам (величина коэффициента к первому разряду составляет 1,1%). Таким образом, тариф первого разряда со всеми доплатами должен составить 970 тыс. рублей, или повыситься на 38,6%. Однако прежняя тарифная ставка первого разряда вместе с действовавшей доплатой и набежавшей к октябрю индексацией в сумме составила 983,8 тыс. рублей. Следовательно, новый тариф первого разряда, введенный с 1 октября, даже формально не только не повысил заработную плату, но и снизил ее по сравнению с сентябрем.

Что касается максимальной тарифной ставки, предусмотренной 2-м разрядом, то она увеличилась с 3240 тыс. рублей до 4536 тыс. рублей, или на 40%. Однако перевод тарифных ставок в долларовый эквивалент по рыночному курсу также показывает резкое снижение тарифной заработной платы. Поэтому абсолютно правы лидеры профсоюзов, выразившие возмущение размерами октябрьского "роста" заработной платы.

Отдельный разговор о пенсионерах. Номинальная начисленная среднемесячная пенсия с января по сентябрь увеличилась с 1238,2 до 1738,8 тыс. рублей, то есть лишь на 40,4%, что ниже даже официальных темпов инфляции. Долларовый эквивалент среднемесячной начисленной пенсии, рассчитанный по курсу Национального банка, с февраля существенно уменьшился, сократившись на 26,0%. По рыночному курсу это падение еще более значительно — на 44,1%. Сегодня президент и правительство смогли выделить среднему пенсионеру за его многолетний и почти бесплатный труд всего 63 цента в сутки. В то же время самая авторитетная международная организация — Организация Объединенных Наций (ООН) — официально установила порог бедности для пенсионера. Он равен одному доллару в день. А это означает, что ветеран труда в Беларуси должен получать минимальную пенсию в размере пяти с половиной миллионов рублей в месяц. Каждый пенсионер может сравнить свое реальное пособие с этой цифрой. И определиться, кто же его дурачит и издевается над ним.

Впрочем, в Беларуси есть пенсионеры, которые получают большие суммы. Это те, кого выделил в отдельную категорию своим решением президент Лукашенко. К ним относятся бывшие высшие партийные чиновники типа Ефрема Соколова и Николая Дементея. Им, "бедненьким" строителям коммунизма, отваливают пенсию сполна. А остальные, мол, перебьются. И это несмотря на беззаветную преданность идеям рыночного социализма и поддержку на выборах и референдумах! Вот так президент "рассчитывается" со стариками за поддержку. Больший цинизм редко доводится видеть.

Национальный исполнительный комитет в своем решении записал также требование к А.Г.Лукашенко немедленно повысить размеры пенсий и государственных пособий. Отмечается, что размер минимальной пенсии по возрасту не должен быть ниже прожиточного минимума. Средства для повышения пенсий и пособий НИК предлагает взять во внебюджетных фондах А.Лукашенко, из доходов Управления делами президента, а также за счет сокращения численности репрессивных органов и служб охраны.

**Владимир ГЛОД.**

## Что там, у соседей?

# У каунасцев родилась тройня "из пробирки"

14 октября в Каунасской университетской клинике появилась на свет необычная тройня — два мальчика и девочка. Необычность этих родов состояла в том, что 34-летняя роженица Дайва Карлаускене — первая женщина, искусственно оплодотворенная в Литве.

Профессор клиники В.Садаускас сделал роженице кесарево сечение.

Ассистировавший во время проведения операции Аурелиюс Умантас говорит, что она заняла всего 35 минут и прошла успешно.

"За такое время обычно из утробы матери успевают извлечь только одного новорожденного, а тут мы помогли появиться на свет сразу трем, — рассказывает Умантас. — Первым из утробы матери был извлечен мальчик, весивший 1590 граммов, а росточком — 44 сантиметра, потом девочка (вес — 1890 граммов, рост — 45 сантиметров).

Самым крупным оказался третий ребенок. При росте 47 сантиметров хлопец потянул на 2590 граммов.

Новорожденные считаются недоношенными, так как беременность продолжалась всего 35 недель. Их поместили в "инкубатор".

Супруг Дайвы Карлаускене Кестутис Карлаускас присутствовал при родах. И тут же давал малышам имена — Каролис, Диана, Каспарас. Счастливая мать чувствует себя нормально.

Процедура искусственного оплодотворения впервые в Литве была выполнена в единственной лаборатории каунасской частной клиники "Мотина ир вайкас".

Каунасцы Дайва и Кестутис Карлаускасы вместе с 1982 года, но детей все не было. После обследования выяснилось, что Дайва не может забеременеть из-за непроходимости маточных труб.

В ноябре прошлого года Карлаускасы прочитали в газете о лаборатории частной клиники "Мотина ир вайкас".

Медики изъяли из организма Дайвы 18 яйцеклеток. 12 подверглись процедуре оплодотворения, но лишь четыре успешно. Их снова поместили в организм Дайвы. Через пару недель провели тест на беременность. 34-летняя женщина наконец забеременела.

Обследование ультразвуком показало, то в организме матери — два эмбриона. Но каково же было удивление супругов, когда они узнали, что должны родиться не два малыша, а три.

Процедура оплодотворения стоила семье примерно 2 тысячи долларов. Карлаускасы не считают, что это слишком много, ведь они обрели смысл и радость жизни. В принципе, такое за деньги не купишь.

По словам Аушры Блажене из единственной в Литве лаборатории по искусственному оплодотворению, ту же процедуру, что и Д.Карлаускене, сделали еще одной женщине из Вильнюса. Но, забеременев, в клинике "Мотина ир вайкас" она больше не появлялась.

**Соб.инф.**

# Турыстаў і "чаўнакоў" чакаюць новыя правілы

З новымі правіламі ўезду іншаземцаў на тэрыторыю Польшчы пазнаёміў журналістаў Генеральны консул гэтай краіны ў Брэсце Томаш Кліманскі. Яны ўступаюць у сілу з 1 студзеня 1999 года.

Паводле слоў Генеральнага консула, распараджэнне наконт гэтага падпісана міністрам унутраных спраў і адміністрацыі Польшчы яшчэ ў чэрвені мінулага года. У асноўным, яно датычыць змянення тарыфаў на пакрыццё расходаў уезду, знаходжання і выезду замежных грамадзян.

Згодна з гэтым дакументам, іншаземцы, якім больш за 16 гадоў, павінны мець пры сабе 100 злотых на кожны дзень знаходжання ў краіне, але не менш за 500 злотых увогуле. Для непаўналетніх падарожнікаў гэта сума зменшана ўдвая.

Для турыстаў, удзельнікаў маладзёжных лагераў, спартсменаў, якія накіроўваюцца на спаборніцтвы, і тых, хто едзе ў санаторна-аздараўленчыя ўстановы, пры наяўнасці дакументаў, якія гэта пацвярджаюць, сума вызначана ў 20 злотых на кожны дзень знаходжання, але не менш за 100 злотых у агульнай суме. Калі той, хто ўязджае ў Польшчу, мае намер там прабыць не больш за тры дні, то ён павінен прад'явіць суму ў памеры 300 злотых, а для таго, хто едзе транзітам, яна вызначана ў 200 злотых.

Распараджэнне таксама ўстанаўлівае, што для выезду з гэтай краіны іншаземец павінен пацвердзіць наяўнасць грошай, якія пакрываюць расходы на паездку ў сваю краіну ці любую іншую задэклараваным транспартным сродкам. Вызначаюцца і выпадкі, калі пры перасячэнні польскай граніцы іншаземцы не прад'яўляюць дакументаў, якія пацвярджаюць наяўнасць у іх такіх сродкаў.

Адбываецца гэта тады, калі візіт ажыццяўляецца на аснове міжнародных дагавораў, а таксама, калі расходы, звязаныя са знаходжаннем, бярэ на сябе польская дзяржаўная ўстанова ці грамадская арганізацыя. Тое ж самае датычыцца і тых іншаземцаў, у каго ёсць віза з правам працаўладкавання ў Польшчы, часовага ці пастаяннага пражывання, пры наяўнасці дакументаў, якія даюць магчымасць перасячы граніцу па спрошчаным варыянце і пры ажыццяўленні гуманітарнай дапамогі.

Паводле слоў Томаша Кліманскага, ва ўсіх вышэйпералічаных выпадках замест польскіх грошай можна мець пры сабе неабходную колькасць замежнай валюты ў адпаведнасці з курсам, устаноўленым Нарадовым Банкам Польскім.

**Іван КУКСА, БелТА.**



## Независимая экспертиза

*Ярослав РОМАНЧУК*

# Долларизация

На носу зима. Грядут холода. Растут долги. Валюты в государственной казне катастрофически не хватает. Возникают трудности с оплатой даже "критического" (с точки зрения чиновников) импорта.

Белорусская экономика, как тот велосипедист, накачанный анаболиками: домчался до промежуточного финиша с ростом ВВП в 17% за 17 месяцев, но настоящих сил-то нет. Надо продержаться хотя бы до весны. "Второе дыхание" связано только с интенсивной работой второго денежного печатного станка, на этот раз российского. Вместе веселей шагать по единому таможенному пространству, которое разваливается от отсутствия общих правил игры, финансовой безответственности, бартеризации и коррупции.

Белорусское правительство приняло решение расширить розничную торговлю отечественных и зарубежных товаров за свободно-конвертируемую валюту (СКВ). Не от хорошей жизни. Выручка от продажи за СКВ освобождается от обязательной продажи на МВБ по грабительскому курсу Нацбанка. Это значит, что те предприятия, которым будет разрешено продавать услуги и товары за валюту, будут платить на один, достаточно крупный налог меньше. При этом все остальные налоги остаются в силе. Их придется платить в той же валюте, а не по курсу Нацбанка — в рублях. Таким образом, правительство предпринимает пожарные меры для пополнения валютных резервов. Он признает победу серой экономики над официальной. Если валюту не пустить в белорусские магазины, то вслед за табачной фабрикой, а также "Коммунаркой" и многими другими остановится большинство предприятий.

Ни для кого не секрет, что официально валюту могут купить, в основном, только валютчики, разработавшие четкий механизм дежурств возле обменных пунктов. Покупка валюты по официальному курсу для расчетов за энергоносители не в счет, ибо к этому пирогу допущены только единицы. Телеграммы Нацбанка призывают установить контроль за общественным порядком возле обменников и "осуществлять продажу наличной валюты физическим лицам в порядке очередности по разовой сделке". Такие документы вызывают лишь оправданные ухмылки у заинтересованных в рынке черной валюты лиц. С черным рынком можно было бы бороться, если бы в его существовании были заинтересованы только теневики. Реальный спрос формируют:

— обыкновенные граждане, которым надо купить доллары, чтобы сберечь копейку на черный день или купить хорошую обувь, одежду и другие товары;

— мелкие предприниматели, челноки, занимающиеся оптовой и розничной торговлей;

— те же госчиновники, милиционеры и налоговики, которым ничто человеческое не чуждо (в том числе и желание сэкономить свои деньги за счет покупки товаров в СКВ);

— зарегистрированные фирмы, которые не в состоянии купить валюту по официальным каналам;

— финансовые компании, которые обслуживают внешнюю торговлю.

На многочисленных оптовых продовольственных и вещевых рынках Беларуси, особенно в Брестской и Гродненской области, редко можно встретить работающий официальный обменный пункт. Но не было ни дня простоя из-за нехватки валюты. И власть, и народ принимают существование черного валютного рынка молча. Если бы власть действительно хотела уничтожить его, она бы поступила гораздо жестче. Ведь при покупке товаров за СКВ никто не требует от покупателя справку или чек с официального обменного пункта. Получается как с сексом и проституцией при социализме: компартия официально боролась и запрещала, а в домах отдыха, на съездах и дачах такое творилось...

Власть делает вид, что борется с валютчиками, которые как раз и являются клапанами снижения социального напряжения и недовольства. Их действия абсолютно моральны, поскольку они никого не принуждают к проведению валютно-обменных операций. Глас народа, глас потребителя — глас Божий. Он говорит, что реальный курс наличного доллара составляет 180.000—200.000 "зайчиков" за один "зелененький", а не так, как решил себе Прокопович и иже с ним. Самое смешное, что даже официальные государственные учреждения и предприятия не принимают официальный курс всерьез и работают по коммерческому. Белгосуниверситет установил плату за обучение не по Нацбанку, таможня уже давно взимает пошлину в твердой валюте, нерезиденты не имеют права использовать "зайцы" внутри Беларуси.

Глава советников премьер-министра Иван Лемешевский справедливо опасается, что "такие действия (имеется в виду расширение долларовых расчетов внутри республики) наоборот могут обострить многие накопившиеся социальные и экономические проблемы". Сам премьер-министр заявил, что "официальный курс Национального банка не может распространяться на всю экономику и не является взвешенным". Данное высказывание может смело претендовать на цитату года. Думаю, что Линг таким образом подвел итог полугодовой эпопее по унификации обменных курсов. После осеннего провала с урожаем это не менее болезненное поражение исполнительной власти. Осталось разрешить бухгалтерам на предприятиях вести учет по реальному рыночному курсу.

Разрешив розничную торговлю за СКВ, правительство осуществляет постепенную легализацию и изъятие накопленной у населения валюты. Данная мера — это очередной шаг к клинической смерти белорусского рубля. Власть призывает отечественных производителей перейти на расчеты в валюте, потому что белорусские рубли — это так, фантики для игры в садовника. По сути дела это очередной сигнал к сбросу имеющихся рублей. На практике это будет означать дальнейшее унижение "зайца" до 250.000 300.000 за один доллар в течение нескольких месяцев.

Да, бюджет получит немного больше валюты. Да, производители и торговля за СКВ получат недолгую передышку. Но почему-то никто из официальных лиц не говорит о влиянии этого шага на наименее защищенные социальные группы населения. Ведь никто зарплату учителям, врачам, рабочим на заводах и колхозникам, пенсии старикам и стипендии студентам в валюте не платит и не будет платить. Следовательно, именно они больше других пострадают от долларизации белорусской экономики. Реальные зарплаты уменьшатся до социально взрывоопасных величин 10—30 USD. На селе вообще забудут вид многих продуктов питания и приличной одежды. Единственный способ сохранить видимость справедливого распределения — это ввести не только норму отпуска, но и карточки. Постепенно все больше и больше стариков и бюджетников станет понимать, что не враги с Запада, не проклятая оппозиция и российские "дерьмократы" управляют экономикой Беларуси. Если Америка — это исчадие зла, то почему правительство так любит ее доллары? Почему оно унижает свою собственную национальную валюту и всех ее держателей? В предвыборную эпоху этот вопрос становится риторическим. Нужны деньги. Необходимо много денег. Нужны деньги любой ценой, пусть даже для этого придется развалить весь экспортный потенциал страны и обанкротить ее население. Нынче выборы дешевой ценой не выигрываются.

# У "Беларусбанку" можна будзе атрымаць па ўкладах не толькі працэнты, але і выйгрыш

Чатыры новыя віды дэпазітных укладаў увёў у дзеянне ААБ "Беларусбанк". Гэта накапляльны і тэрміновы ўклады ў замежнай валюце, а таксама выйгрышныя ўклады — у нацыянальнай валюце "Выйгрышны-плюс" і "Выйгрышны-валютны".

Тэрміны захоўвання выйгрышных укладаў — шэсць месяцаў, а тыражы праводзяцца з 1 па 10 кастрычніка і з 1 па 10 красавіка. Па выйгрышным укладзе ў нацыянальнай валюце на кожныя сто ўкладаў прадугледжаны адзін выйгрыш, які складае 200 працэнтаў, чатыры — па 75 працэнтаў, пяць выйгрышаў — па 50 працэнтаў сярэдняга астатку ўкладу за паўгоддзе. Па ўкладу "Выйгрышны-валютны" адзін выйгрыш будзе складаць 40 працэнтаў сярэдняга астатку ўкладу за паўгоддзе, чатыры — па 20 працэнтаў, пяць выйгрышаў — па 10 працэнтаў сярэдняга астатку ўкладу за паўгоддзе.

Як паведамілі БелТА ў прэсслужбе гэтай фінансавай установы краіны, у банка ёсць неабходныя валютныя і рублёвыя рэсурсы для вяртання грошай па першаму патрабаванню ўкладчыкаў. Зварот сродкаў і налічаных працэнтаў гарантуецца дзяржавай у адпаведнасці з дэкрэтам прэзідэнта "Аб гарантыях захаванасці сродкаў фізічных асоб у замежнай валюце, што знаходзяцца на рахунках і ва ўкладах у банках Рэспублікі Беларусь" і законам аб банках і банкаўскай дзейнасці ў краіне.

**БелТА.**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# І яшчэ раз аб нашай мове

## З вечаровых роздумаў на самоце

### Цынізм маніпулятараў

У адказ на трывожнагнеўныя галасы патрыётаў роднага слова, актывістаў Таварыства беларускай мовы, газеты зноў апублікавалі афіцыйныя "статыстычныя даныя": у краіне беларускіх школ нашмат больш, чым рускіх. Дык чаго вы, спадары нацыяналісты, падымаеце крык-лямант? Што вам яшчэ трэба? Нам бы хоць выраўняць сітуацыю, каб у адпаведнасці з рэферэндумам і рускіх школ у рэспубліцы стала столькі ж, колькі беларускіх! У імя Канстытуцыі і Закона! У імя раўнапраўя! Раз дзве мовы прызнаны дзяржаўнараўнапраўнымі, дык хай і школ будзе роўная колькасць — і тых і другіх, і беларускіх і рускіх.

У які ўжо раз чытаю ў друку гэтую разлічаную на недасведчаных грамадзян крутню, — і ў які раз думаю: да якой жа ступені трэба страціць сваю чалавечую годнасць, каб так цынічна маніпуляваць лічбамі? Аніякай няёмкасці — ні перад Богам, ні перад людзьмі, ні перад дзецьмі і ўнукамі, — ні перад кім! Поўнае атрафіраванне пачуцця сораму. Поўнае вызваленне сябе ад такой хімеры, як сумленне.

Паслухайце, таварышы начальнікі! Ну вы ж добра ведаеце, што на беларускай мове працуюць у Беларусі, за нязначным занятакам, маленькія вясковыя школкі. Вы добра ведаеце, колькі ў сярэднім вучняў у адной рускай школе і колькі ў беларускай. Калі ў рускай, скажам, тысяча, то ў беларускай — пяцьдзесят. У дваццаць разоў менш! У выніку: у Беларусі на дваццаць дзяцей, якія вучацца на рускай мове, прыпадае адно дзіцятка, якое вучыцца на беларускай мове. Дык чаму вы, шаноўныя, хоць бы ад страху перад Богам, перад сваім народам, перад нашчадкамі, не называеце гэтыя лічбы? Лічбы — у якіх уся праўда пра становішча беларускай школы, пра раўнапраўе моў наогул? Чаму вы не крычыце, не б'еце ў званы, што беларуская школа знікае, гіне, што добрых, паўнавартасных беларускіх школ у Беларусі зусім-зусім мала? Што пераважаюць, раскінутыя па перыферыйнай глухамані, дробныя бесперспектыўныя школкі, вучні якіх асуджаны на пажыццёвае капанне ў зямлі і гноі, а таму няхай сабе вучацца і па-беларуску. З каровамі і конямі, з трактарам і плугам не абавязкова гаварыць на мове культуры і навукі, на мове камп'ютэра і радыётэхнікі, а галоўнае — на мове начальства. Такая — сацыяльная механіка праблемы, шаноўныя, калі ўжо вы любіце на першы план ставіць сацыяльнае.

Вось і ўсё! На завяршэнне магу дадаць толькі наступнае, — паколькі павагу ў свеце, як бачу, вам усё-такі хочацца мець. Пакуль у вас, панове, будуць такія нялюдскія, такія пахабныя, такія цынічныя адносіны да мовы свайго народа — ніколі і нідзе на гэтай планеце не будуць вас паважаць і з вамі лічыцца, бо будуць на вас глядзець, як на дзікуноў і манкуртаў, як на нікчэмных халуёў і запраданцаў, у якіх няма элементарнага ўяўлення пра інтэлігентнасць і культуру, няма ні каплі пачуцця нацыянальнай годнасці. І можаце сабе і надалей, колькі ўлезе, крычаць пра суверэнітэт "нашай дзяржавы", можаце і далей надзяваць прыгожа размаляваныя маскі законаабаронцаў і праваахоўнікаў, — усё гэта будзе ўспрымацца ў цэлым свеце як непрыстойная цынічная балбатня і не различанае на прастакоў вульгарнае сцэнічнае "дзейства".

Ах, панове, панове! Таварышы, таварышы! Столькі ездзіць па свеце, у тым ліку па славянскім, і так і не бачыць, як жывуць і пачуваюцца на сваёй зямлі людзі, і такімі сляпымі вяртацца дадому!..

### "Не лічыцца з воляй бацькоў мы не можам..."

Так гучыць адказ высокага начальства на пытанне радавых грамадзян, чаму ў Беларусі за апошнія тры гады рэзка скараціліся беларускія школы і беларускія першыя класы. "Бацькі не хочуць! Бацькі выбіраюць школы з рускай мовай навучання, а гэта — іх законнае права, іх воля. Не прымушаць жа іх рабіць насуперак сваёй волі, сваім жаданням! У нас жа — дэмакратыя, жывем паводле законаў, паводле канстытуцыі. Ці вы хочаце, каб мы насаджалі беларускую мову гвалтам, "как это уже было недавно"? Дык не дачакаецеся, спадары нацыяналісты, і не спадзявайцеся!.."

Тое, што беларускае начальства ў сваёй моўнай палітыцы даходзіць да крайніх межаў цынізму, у свеце ўжо нікога не здзіўляе. Не здзіўляемся і мы, ведаючы, адкуль ён, гэты цынізм, ідзе, чым жывіцца і чаму так пачварна разрастаецца. Час здзіўленняў мінуў. Але ўвесь народ, усе дзесяць мільёнаў жыхароў Беларусі цынікамі стаць не могуць. У бальшыні сваёй людзі хочуць жыць сумленна. Для іх і трэба гаварыць праўду.

Дык чаму ў нас, у Беларусі, бацькі школьнікаў мовай навучання сваіх дзяцей выбіраюць рускую? Відавочна, таму, што для беларускай мовы не бачаць у жыцці перспектывы, што іх дзецям яна практычна нідзе не спатрэбіцца. Таму, што сама жыццёвая рэальнасць, усё тое, што ў дзяржаве і з дзяржавай адбываецца, дае ім зразумець: Беларусі як незалежнай дзяржавы не будзе, замест яе будзе "северо-западный край" ці шэсць новых губерняў Расіі. А гэта значыць, што беларуская мова ніколі па сутнасці дзяржаўнай не стане, ніколі не прыйдзе на завод, ва ўстанову, у навуку і г.д. Для чаго ж яе вывучаць, дзеля чаго ведаць? Калі б было не так, калі б кіраўніцтва рэспублікі было насамрэч зацікаўлена ў развіцці і ўмацаванні суверэнітэту Беларусі, яно б у першую чаргу клапацілася пра стан беларускай мовы ў сваім уласным доме, пра яе інтэнсіўнае пашырэнне ў грамадскім ужытку, — як гэта было ў свой час ва ўсіх краінах свету, што вызваляліся ад чужой апекі і станавіліся незалежнымі, як гэта ёсць сёння ў дзяржавах Балтыі і Закаўказзя, на Украіне і ў Казахстане. Калі б было не так — людзям бы кожны дзень гаварылася зверху: вучыце сваіх дзяцей беларускай мове, бо як жа яны без яе будуць тут жыць і працаваць? Ды і прыклад бы ўсяму народу падаваўся зверху.

Вось з такіх меркаванняў бацькі, няйнакш як змірыўшыся з праклятай доляй, і пасылаюць сваіх малых у рускія школы.

Не бацькі — дзяржава павінна вырашаць такія пытанні, як мова навучання і выхавання ў школах. Дзяржава і толькі дзяржава! Калі, зразумела, яна ёсць і намерана заставацца дзяржавай надалей. Дзяржава павінна думаць і клапаціцца аб тым, каб яе грамадзяне маглі свабодна спраўляцца з вытворчымі і іншымі грамадскімі абавязкамі, каб няведанне мовы не стала перашкодай для гэтага. І ў гэтым сэнсе дзяржава мусіць быць паслядоўнай і, калі хочаце, строгай. Пры ўмове, паўтараю, што яна сапраўды — дзяржава. Не ліпавая, не папяровая, не прывідная, а самая што ні ёсць сапраўдная, суверэнная, незалежная дзяржава, у якой усё вырашаецца па-дзяржаўнаму самастойна і з пачуццём нацыянальнай годнасці.

### Дык гэта ў вас ад любові і павагі да "другой Радзімы"?

Курс на задушэнне нацыянальнага беларускага адраджэння забяспечаны, так бы мовіць, юрыдычна, а менавіта: рэферэндумам 1995 года, эрзац-канстытуцыяй 1996 года, новай рэдакцыяй Закона аб мовах (1998) і некаторымі іншымі нібыта дзяржаўнымі актамі. Кажу "нібыта дзяржаўнымі", бо на справе, па сутнасці, гэтыя акты ёсць антыдзяржаўныя, антынацыянальныя, здрадніцка-калабаранцкія, таму што дзяржава, калі яна дзяржава, а не фікцыя, не можа праводзіць у жыццё такую ж моўную палітыку, якую праводзілі ў стагоддзях заклятыя ворагі беларушчыны. Калі за гэты курс галасавалі і цяпер яго падтрымліваюць малапісьменны дзядзька Уладзька і непісьменная бабка Агапка з "электарату" — ну што можна ў такім разе сказаць? Хіба што: "Даруй ім, Госпадзе! Не гатовыя яны да разумення волі Тваёй. Пачуццё нацыянальнай ганьбы ім незнаёма гэтак жа, як і немаўлятам у калысцы". Але калі за гэта галасуе настаўніца ды яшчэ з ганаровым званнем, — тут ужо проста рукой не махнеш. З высокаадукаваным і высокамаральным таварышам (настаўніца ж!) трэба — паколькі пытанне звышпрынцыповае — ці пагаджацца, ці спрачацца. Спрачацца з надзеяй, што можа ўсё-такі ўдасца дастукацца да яе душы і сэрца, — чалавек жа ўсё-такі не з апошніх, не якая-небудзь там цёмная бутэлька піўная, ну яна то павінна адрозніваць, што для нармальнага грамадзяніна ёсць годнасць і гонар, а што — ганьба і сорам. Аднак жа, відаць, не адрознівае, калі хапаецца за пяро і піша не ў абарону справядлівасці, а, па сутнасці, у абарону і апраўданне таго працэсу задушэння беларускай мовы ў Беларусі, які з кожным днём набывае ўсё большы размах.

Шаноўная пані асветніца, выдатніца народнай адукацыі! Калі Вам так добра тут, на зямлі Купалы і Коласа жывецца, што нават (цытую Ваш артыкул) "считаете Беларусь второй родиной и не можете не любить и не уважать эту землю, ее народ, язык", — то скажыце, калі ласка, чаму ў старажытным беларускім горадзе, куды Вы 35 гадоў назад прыехалі з Урала працаваць, не стала ніводнай беларускай школы, нават ніводнага класа, ні паўкласа, ні чвэрці класа? Толькі прашу Вас: не трэба ніякіх тэорый, ніякіх спасылак на волю бацькоў, на асаблівасці гісторыі Беларусі, на "агульныя старажытныя карані", ніякіх агаворак наконт двух стагоддзяў супольнага жыцця ў адзінай дзяржаве. Адкажыце, паклаўшы руку на сэрца і помнячы пра Бога: чаму ў старажытным беларускім горадзе не засталося ніводнай школы на мове народа, які Вы "любите и уважаете"? Чаму ва ўсіх гарадах краіны і нават ва ўсіх гарадскіх пасёлках так рэдка сёння можна пачуць мову, якую Вы "не можете не любить и не уважать"? Прабачце мне, шаноўная, але — як жа звесці канцы з канцамі? Як звязаць Вашу "любовь и уважение" з Вашай поўнай абыякавасцю да таго, што на Вашых вачах гіне мова 10-мільённага еўрапейскага народа, для якога яна, мова — гэткі ж Божы дар, як руская для рускіх, польская для палякаў, фінская для фінаў і г.д., і г.д., і г.д.? Што ж гэта, выбачайце, за такая дзіўная любоў, якая дазваляе Вам спакойна глядзець на дыскрымінацыю, пераследаванне і ўмярцвенне прадмета Вашай любові? Ці, можа, аслепленыя ідэяй "славянскай саборнасці", Вы не бачыце гэтага? Можа, станеце даказваць, што гэтага няма наогул, што беларуская мова скрозь і ўсюды жыве і квітнее? Што кожны, хто хоча, можа вучыцца на ёй у тэхнікумах і універсітэтах, весці на ёй справаводства ў дзяржаўных установах і на прадпрыемствах, карыстацца ў арміі ёю?

Адкажыце, яшчэ раз прашу, з усёй шчырасцю: гэта нармальна, гэта справядліва, што беларускі народ на сваёй роднай зямлі аказаўся пазбаўлены магчымасці арганізоўваць сваё жыццё на сваёй уласнай мове — як усе добрыя людзі ў свеце? Што ні ў адной сферы грамадскага жыцця, за выключэннем мастацкай літаратуры, ужо не гучыць беларускае слова — гэта нармальна? Гэта так і трэба? Гэта па-чалавечы і па-боску? Каб Вам было лягчэй зразумець наш беларускі боль і клопат — давайце на хвіліну ўявім адваротнае: уявім, што на Вашым родным Урале, адкуль Вы прыехалі жыць у Беларусь, няма ніводнай рускай школы, а ўсе — на розных іншых мовах. Не ўяўляеце? Кажаце, не можа быць такога! Я згодзен з Вамі: такога сапраўды быць не можа. Гэта нейкая пачварная фантастыка, гэта абсурд!

Вось бачыце! На Урале (у Сібіры, на Кубані, на Далёкім Усходзе і г.д.) такога быць не можа. Як гэта, каб Расія ды без рускай мовы? А Беларусь? А Беларусь без беларускай мовы — можа?.. Што маўчыце? Што не адказваеце? Можа ці не можа? Не ведаеце, як быць, што адказаць? Сказаць "можа" — нестае духу, надта ж цынічна. Сказаць "не можа" нестае... Шаноўная настаўніца, сейбітка "разумнага, добрага, вечнага", чаго Вам нестае, каб голасна сказаць: "Не можа!" Каб сказаць: "Людзі! Суайчыннікі! Суродзічы! Мы ўсе вельмі вінаватыя перад беларускім народам. Мы павінны пакаяцца, папрасіць прабачэння за сябе і за ўсіх сваіх папярэднікаў і дапамагчы яму адрадзіцца ў поўным сэнсе гэтага слова: адрадзіць сваю дзяржаўнасць, сваю самабытную нацыянальную культуру, сваю гістарычную памяць, сваю мову".

# В юридической консультации Михаила Пастухова

## Как передать квартиру ЖСК детям?

*В 1989 г. я выплатила пай за кооперативную квартиру, но ее не приватизировала. Прописаны в ней, кроме меня, сын и дочь с внучкой. Теперь я больна и хочу, чтобы квартира после моей смерти осталась детям. Но в ЖСК утверждают, что коль квартира не приватизирована, значит, она остается в ведении кооператива.*

*Подскажите, как мне быть?*

*Ж.И.Феоктистова, Минск.*

В правлении ЖСК Вам дали правильное разъяснение. За наследниками члена кооператива, которые пользовались при жизни наследователя жилым помещением, сохраняется право пользования этим помещением при условии вступления в кооператив. Наследникам, не пользовавшимся жилым помещением при жизни наследователя либо отказавшимся от дальнейшего пользования этим помещением, кооператив выплачивает наследуемые паевые взносы (ст.58 Примерного устава ЖСК).

Для избежания ненужных проблем квартиру надо оформить в собственность в установленном порядке. Тогда Вы можете свободно завещать свою квартиру детям или внукам. Они получат ее по наследству независимо от пожеланий ЖСК и смогут ею распоряжаться по своему усмотрению.

## Кто считается нуждающимся в улучшении жилищных условий?

*Более 10 лет проживаю в квартире, находящейся на территории войсковой части. Квартира подведомственна Министерству обороны. Ордера на квартиру у меня нет. Плату за нее вносит бывший муж, на него же оформлен и лицевой счет.*

*Считаюсь ли я нуждающейся в улучшении жилищных условий? Если да, то куда мне следует обратиться? Могу ли я претендовать на размен данной квартиры?*

*Татьяна, Осиповичский район Могилевской области.*

В соответствии с Правилами учета граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий и предоставлении жилых помещений в Республике Беларусь (утверждены постановлением Совета Министров БССР и Белсовпрофом от 25 апреля 1984 г. №135); нуждающимися в улучшении жилищных условий признаются граждане:

1. имеющие обеспеченность жилой площадью на одного члена семьи ниже уровня, определяемого исполнительными комитетами областных, Минского городского Советов совместно с советами профсоюзов;

2. проживающие в жилом доме (жилом помещении), не отвечающем установленным санитарным и техническим требованиям;

3. проживающие в квартирах, заселенных несколькими нанимателями, либо в одной комнате с членами своей семьи, если в составе семьи имеются больные, страдающие тяжелыми формами некоторых хронических заболеваний, при которых совместное проживание с ними в одной квартире или одной комнате невозможно;

4. проживающие в смежных неизолированных комнатах или в одной комнате при отсутствии родственных отношений;

5. проживающие длительное время в общежитиях, за исключением граждан, поселившихся в связи с обучением;

6. проживающие длительное время по договору поднайма жилого помещения в домах государственного и общественного жилищного фонда или по договору найма жилого помещения в домах, принадлежащих жилищно-строительным (жилищным) кооперативам либо гражданам на праве личной собственности, а также в качестве временных жильцов;

7. проживающие длительное время в служебных жилых помещениях;

8. имеющие по состоянию здоровья право на дополнительную жилую площадь при уровне обеспеченности жилой площадью менее восьми квадратных метров на одного человека;

9. проживающие в однокомнатной квартире или в одной комнате, являющейся предметом договора найма жилого помещения, если в семье имеются лица разного пола старше девяти лет, кроме супругов;

17. расторгнувшие брак супруги собственников жилых домов и членов семей этих лиц, если они в соответствии с законодательством не пользуются правом на раздел жилого дома.

Ваш случай подпадает под седьмой пункт указанных правил, т.к. сроки проживания, необходимые для признания граждан нуждающимися в улучшении жилищных условий, не могут превышать пяти лет. Граждане, имеющие право на получение жилого помещения вне очереди, признаются "нуждающимися" независимо от длительности проживания.

Учет граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий, осуществляется, как правило, по месту жительства и в исполнительном комитете районного, городского, поселкового, сельского Совета депутатов.

Поэтому Вы можете обратиться в исполком по месту проживания для постановки на учет "нуждающихся". А вот претендовать на размен данной квартиры Вы не можете, поскольку нормы жилищного законодателства не распространяются на отношения по обмену и изменению договора найма служебных жилых помещений.

## Чьи права сильнее?

*С 1992 г. я и моя жена ухаживали за стариками (моим дядей и его женой). В 1994 г. мой дядя оформил завещание — дарение квартиры — на мою жену. В этой квартире мы прописаны и имеем лицевой счет. В 1995 г. после смерти дяди мне предъявили завещание на квартиру, выданное еще в 1991 году на имя другого человека.*

*Кто имеет права на данную квартиру и могут ли выселить инвалида II группы, узника концлагеря?*

*В.А.Смольский, Минск.*

Согласно статье 538 Гражданского кодекса, завещатель вправе в любое время изменить или отменить сделанное им завещание. При этом завещание, составленное позднее, отменят ранее составленное полностью или в части, в которой оно противоречит завещанию, составленному позднее.

В данном случае завещание в Ваш адрес имеет приоритет перед завещанием, составленным в 1991 году. Выселить из занимаемого жилого помещения можно только на основании судебного решения в случаях, предусмотренных Законом (см. статью 107 Жилищного кодекса Республики Беларусь).

## Если Вам грозят выселением...

*С 1982 г. проживаем в трехкомнатной квартире площадью 40,6 м², которая находится в административном здании. На квартиру имеется ордер. В виду того, что администрации нужна площадь для служебных целей, нас выселяют.*

*Имеют ли право нас выселить без нашего согласия? Какую квартиру обязаны предоставить в этом случае?*

*Мария Николаевна, г.Кобрин.*

В соответствии с нормами жилищного законодательства (ст.107 Жилищного кодекса), выселение из занимаемого жилого помещения в доме государственного или общественного жилищного фонда допускается лишь по основаниям, установленным законом. Речь идет не о добровольном освобождении жилого помещения, что вам предлагают сделать, а о выселении на основании судебного решения. Кроме того, допускается выселение в административном порядке с санкции прокурора лиц, самоуправно занявших жилое помещение или проживающих в домах, грозящих обвалом.

По общему правилу, гражданам, выселяемым из жилых помещений, одновременно предоставляется другое жилое помещение. Гражданам, занимавшим отдельную квартиру, должна быть предоставлена квартира из такого же числа комнат не меньшей площади, однако в пределах нормы жилой площади. Если наниматель или члены его семьи имеют право на дополнительную жилую площадь и фактически пользуются ею, помещение предоставляется с учетом нормы дополнительной жилой площади.

Согласно статье 49 Жилищного кодекса, жилое помещение, предоставляемое гражданам для проживания, должно быть благоустроенным применительно к условиям данного населенного пункта, отвечать установленным санитарным и техническим требованиям. При предоставлении жилых помещений не допускается заселение одной комнаты лицами разного пола старше девяти лет, кроме супругов.

С учетом изложенного Вас не могут выселить без Вашего согласия и Вы имеете право потребовать для своей семьи благоустроенную квартиру.

## Правильно ли оформлен дом в наследство?

*В доме проживали две сестры — Лида и Мария. Я — их родной племянник. При жизни тетя Лида, на которую был оформлен дом, собиралась оформить завещание на меня и свою дочь. Но этого не сделала. После ее смерти в Сельсовете мне сообщили, что дом автоматически переходит на ее сестру. В феврале 1997 года она умерла, и дом оформила на себя ее дочь.*

*Неужели я не имею никакого права на дом, который помогал строить?*

*Николай А., г.Новополоцк.*

Мне представляется, что Вы имеет право на часть дома как наследник третьей очереди. По всей видимости, речь идет о совместной собственности (ст.111 Гражданского кодекса). Дочь тети Лиды имела право наследовать 1/2 дома, а потом после смерти тети Марии — 1/2 ее доли. Остальная часть дома по закону (ст.527 ГК) должна быть Вашей, если нет других наследников второй очереди.

Если Вы намерены отстаивать свои права, то придется подавать иск в суд о разделе дома, уплатив соответствующую сумму госпошлины.



Раздел ведет Мария Нарейко.

Витебские премьеры

## Виват, любовь!

На сцене Белорусского академического театра имени Якуба Коласа в Витебске состоялась премьера спектакля "Виват, любовь!" по мотивам повести Педро Антонио де Аларкона "Треугольная шляпа".

**На снимке:** *сцена из спектакля.*

**Фото Александра ХИТРОВА.**

Среда обитания

Михаил ПОДОЛЯК

# Дешевый хлеб — идеология нищеты

**Каков наш среднестатистический уровень жизни — знает каждый. На пару миллионов рублей прожиточного минимума, получаемых большинством государственных служащих, можно почти каждый день покупать бутылку дешевого молока и батон черного хлеба. На эти продукты денег у нас всегда хватало. Потому что они слишком дешевы — хлеб и молоко держава раздает нам почти что бесплатно. Мы как бы живем в мире дешевого хлеба.**

**Дешевый хлеб необычайно развращает, формирует немыслимый класс иждивенцев, создает иллюзию социальной справедливости. Кто не помнит, сколько стоила буханка черного хлеба году эдак в 80-м — 16—20 копеек. Сегодня такая же по качеству килограммовая буханка стоит от силы десять тысяч белорусских рублей. Если перевести цену хлеба в долларовый эквивалент по рыночному курсу, она составит не более 5—7 центов. Мизерная цена! А поэтому не лучше ли хлеб вообще раздавать бесплатно. Скажем, по две буханки в одни руки ежевечерне.**

**По сути, в булочной мы платим не за хлеб — он действительно столько не стоит. Это цена за нашу лояльность государству. Мы только делаем вид, что покупаем продукт первой необходимости. На самом деле покупают нас. Покупают с потрохами. Пара тысяч белорусских рублей — ровно во столько современные государственные идеологи оценивают наши с вами умственные возможности. Дешевый хлеб сродни наркотику: один раз дали попробовать, и ни за что в жизни не откажешься. Нас подсадили на хлебную иглу. Ведь для того чтобы получить эту сладкую краюху, многого от нас не требуют: необходимо просто делать сочувствующий властям вид.**

**Наша жизнь игра — игра в обман и самообман. Мы делаем вид, что хлеб покупаем и платим за него столько, сколько нужно. Кое-кто делает вид, что доволен полученными от нас деньгами. Круговорот обмана. Сладкая мечта о социализме: ради дешевого хлеба стоит ложиться на рельсы и идти на баррикады. Дешевый хлеб и иже с ним дешевые продукты — это идеология нищеты.**

**Нужно ли нам работать, если платят не за сам труд, а за его идеологическую выдержанность. Как-то давеча, пребывая в Англии, московский голова Юрий Лужков, предложил весьма своеобразную философию труда. "Надо работать по-капиталистически, — глаголил Юрий Михайлович перед опешившими англичанами, — распределять по-социалистически, и все это в условиях полной демократии". В переводе на нормальный язык —это означает примерно следующее: работайте, граждане, за десятерых, а потом некий дядя распределит все наработанное вами по справедливости. Всем хватит дешевого хлеба. Формула Лужкова достойна небезызвестного смачного выражения. Но толку-то.**

**Каждый из нас понимает, что за работу должны платить должным образом. По контракту, ровно столько, сколько ваши мозги и ваши руки стоят на рынке труда. И стоимость товара, произведенного нашим интеллектом и нашими руками, рассчитывать надо, исходя из объективных затрат. Только тогда цены будут реальными и только тогда мы начнем ценить собственный труд. Но все понимание испаряется как только мы переступаем порог булочной.**

**Хлеб и водка играют в нашей республике своеобразную роль общественной смирительной рубашки. Пока все это дешево — претензий нет ни к кому. Плохо работаю, хорошо ли — платят одинаково. Все остальное делает государство. Оно допечатывает необходимое количество разноцветных казначейских билетов, чтобы субсидировать дешевый товар первой необходимости. Всех все устраивает.**

## Людмила Грязнова дискутирует с Валентином Сукало даже в Варшаве

Член оргкомитета Хартии'97, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, член Объединенной гражданской партии Людмила Грязнова принимает участие в международной конференции "Встреча по воплощению человеческого измерения", организованной ОБСЕ. На этот представительный форум, проходящий в Варшаве с 26 октября по 6 ноября, съехались представители более 50 негосударственных и международных организаций, занимающихся правами человека, из всех стран ОБСЕ, а также приглашенные официальные лица.

Людмила Грязнова сделала на конференции уже два выступления. Первая речь касалась политических прав. В ней говорилось о президентских декретах №5 и №21, а также о поправках к Закону о печати. Это выступление вызвало ответную реакцию со стороны министра юстиции Беларуси Валентина Сукало, который сообщил, что декрет №5 имел временный характер, "забыв" сказать о том, что теперь ему придан статус закона.

Второе выступление Грязновой касалось судеб белорусских политзаключенных: Шидловского, Климова и Кудинова, где было сказано об их приговорах, условиях содержания и состоянии здоровья.

Выступление это получило положительный отклик со стороны международных организаций. В этом же выступлении Грязнова ответила на реплику белорусского министра юстиции, сообщив, что она уже в текущем году была осуждена по декрету №5, которому 30 декабря 1997 года придан статус закона. Присутствующий на форуме уполномоченный по правам человека от так называемой Палаты представителей Юрий Кулаковский после выступления Грязновой пообещал, что затребует себе на рассмотрение дело Шидловского с тем, чтобы добиваться его освобождения.

**Пресс-центр Хартии'97.**

## Спад прамысловай вытворчасці ў Гомельскай вобласці прывядзе да страт даходаў

Спад прамысловай вытворчасці, які назіраецца ў Гомельскай вобласці з сярэдзіны жніўня, прывядзе да страт даходаў бюджэту ў IY квартале гэтага года.

Такое заключэнне дало фінансавае ўпраўленне Гомельскага аблвыканкама. Праўда, першыя недапаступленні былі ўжо ў верасні, у прыватнасці, падатку на дабаўлены кошт бюджэт атрымаў на 4 працэнты, або 30 млрд. рублёў, менш.

Зніжэнне рэнтабельнасці вытворчасці на 3,6 працэнта ў спалучэнні з ростам інфляцыі таксама абвастрылі праблему напаўняльнасці бюджэту. Што да інфляцыі, то з-за яе 10 трлн. 736 рублёў, якія паступілі ў бюджэт Гомельшчыны (86 працэнтаў гадавых прызначэнняў па даходах), абясцэнены больш чым на 1 трлн. рублёў, і рэальнае выкананне даходнай часткі бюджэту складае толькі 77 працэнтаў.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Суд вынес прыгавор

Драгічынскі раённы суд завяршыў разгляд крымінальнай справы, што паступіла сюды з суседняга Бярозаўскага раёна. У ёй абвінавачваліся намеснік старшыні райвыканкама Іван Лаўрыновіч, які працаваў на момант затрымання начальнікам аддзела адукацыі, намеснік дырэктара першай школы Бярозы Рэгіна Куніцкая, выкладчык працы і фізвыхавання гэтай жа школы Пётр Дуброўскі і інспектар райаддзела міліцыі Аляксандр Булах.

Як расказаў карэспандэнту БелТА старшыня Драгічынскага райсуда Лявонцій Станкевіч, суд прызнаў вінаватым Івана Лаўрыновіча ў крадзяжы дробнакалібернай вінтоўкі, якая да гэтага лічылася школьнай маёмасцю, а таксама ў хабарніцтве ў суме 150 долараў за садзейнічанне ў атрыманні бланкаў атэстатаў. Ён прыгавораны да чатырох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Завуч школы Рэгіна Куніцкая прызнана вінаватай у выдачы фіктыўных атэстатаў, дачы і атрыманні хабараў і прыгаворана да 5 гадоў пазбаўлення волі. Настаўнік працы і фізвыхавання Пётр Дуброўскі таксама прызнаны вінаватым у атрыманні хабару і прыгавораны да 3 гадоў так званай "хіміі". Усе гэтыя асуджаныя абвінавачваюцца і ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў.

**Іван КУКСА.**

Сенсацыя

## Італьянскія вучоныя знайшлі вакцыну супраць СНІДу

Сенсацыйнае паведамленне перадалі на гэтым тыдні ўсе інфармацыйныя агенцтвы свету: італьянскія вучоныя распрацавалі прататып устойлівай вакцыны супраць СНІДу і ўжо апрабавалі яго на паддоследных жывёлах.

Вучоныя навукова-даследчага інстытута аховы здароўя Італіі пад кіраўніцтвам доктара Барбары Энзолі на працягу двух с паловай гадоў праводзілі даследаванні і эксперыменты, якія сёння дазволілі сцвярджаць, што формула вакцыны супраць "чумы XX стагоддзя" знойдзена. Аб гэтым адкрыцці Барбара Энзолі паведаміла на міжнародным кангрэсе па імуналогіі ў Рэспубліцы Сан-Марына.

Хваля сенсацыйнага паведамлення, якая дакацілася да Беларусі, ускалыхнула не толькі медыкаў, але і ўсіх жыхароў краіны. У Беларусі колькасць заражоных ВІЧ-інфекцыяй яшчэ летам перасягнула двухтысячную лічбу. І гэта толькі афіцыйна зарэгістраваныя носьбіты страшнай інфекцыі. Медыкі даўно ўжо не ўтойваюць, што рэальная колькасць ВІЧ-інфіцыраваных як мінімум у 10 разоў перавышае афіцыйныя паказчыкі. Асабліва трывожна, што вераломная хвароба не шануе маладых. 80 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі — моладзь ва ўзросце 15—29 гадоў.

Безумоўна, трэба адзначыць, што вакцына італьянскіх вучоных яшчэ нікога з ВІЧ-інфіцыраваных не вылечыла. Вакцына, створаная на базе пратэіна "ТАТ", была апрабавана толькі на малпах, у якіх падчас вопытаў амаль поўнасцю аднавіўся згублены імунітэт. Да вопытаў на людзях яшчэ далёка. Праўда, Барбара Энзолі паведаміла, што эксперыментальнае лячэнне будзе праведзена ў некаторых афрыканскіх краінах, калі згоду на эксперымент дадуць мясцовыя ўлады. Напэўна, першай краінай, дзе будзе апрабавана вакцына, стане Уганда.

Доктар Энзолі не сумняваецца ў паспяховасці выніку. Аднак трэба чэсна адзначыць, што патрэбна як мінімум пяць-сем гадоў, каб упэўніцца, ці сапраўды чалавецтва зможа абараніць сябе ад СНІДу.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

